*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ.***



# Наша СЛОВА*.pdf*



**Другі год выдання** **№ 48 (100) 29 лістапада 2023 г.**

## Піліпаўскія вечары ў Лідзе




У рамках праекта "Кола часу" у аддзеле рамёстваў і традыцыйнай культуры ДУ "Лідскі раённы цэнтр культуры і народнай творчасці" адбылася цікавая і вельмі пазнавальная анімацыйная праграма "Піліпаўскія вечары".

На Гарадзеншчыне час вячорак адкрываўся з пачаткам Піліпаўскага паста, і адной з назваў такіх вечароў была "Кудзелькі". Назва звязана з родам заняткаў падчас гэтых збораў. Дзяўчаты, збіраючыся кожны раз на новым месцы, у новай хаце, пралі ніткі. Сяброўкі па чарзе запрашалі да сябе на вячоркі, спявалі песні, частаваліся.




Сёлетняе мерапрыемства мае характар рэканструкцыі і на святе ўсіх чакалі песні, танцы, гульні, варожбы, жарты, байкі, ценявы тэатр, гумар і вясёлы настрой. Праграма атрымалася надзвычай насычанай, уключала вясёлы аповед пра звычайнае жыццё на вёсцы, востры гумар. Вячоркі асабліва спадабалася хлопцам і дзяўчатам з мясцовых школ, а таксама дарослым.

Як і ў тыя далёкія часы ўсё ж засталася ў народа любоў да песень, танцаў, гульняў, жартаў.

***Наш кар.***

## ЖАЎНЕР




Не спудзілі тры залпы птушак,
Жалобна не гулі званы -
Сыходам цішу не парушыў
Жаўнер прайгранае вайны.
Як сымбаль у труну паклалі
Нядзейснай славы медалі,
Бо маршалаў перамагалі -
Яму ж даць рады не змаглі.
Ні зброяю, ні залатоўкай
Узяць не здолелі ў палон,
Праз гвалт паўсталага натоўпу
Змяняўся свет, але не ён.
Не верачы ідэям цмяным,
Нязломным сэрцам адзінца
Свайму штандару быў аддданы
Да надмагільнага капца.
Імшу па ім адправіць вецер,
Праз год дзяцей не прывядуць,
Не ўрадавы вянок - букецік
Ля крыжа хтось пакінуў тут.
Снег занач кветкі запарушыць
Азнакай доўгае зімы,
Спакой ваш смерцю не парушыў
Жаўнер забытае вайны.
Прысягу й смерцю не парушыў
Жаўнер бясконцае вайны.

***Зміцер Захарэвіч.***

# “Наша слова.*pdf* “ № 100

# На малой радзіме Слугі Божага біскупа Зыгмунта Лазінскага ўсталявалі крыж і мемарыяльны знак у яго памяць

У аўторак 21 лістапада ў вёсцы Барацін Карэліцкага раёна (Гарадзенская дыяцэзія) быў дабраслаўлёны крыж і памятны знак у гонар славутага земляка - Слугі Божага біскупа Зыгмунта Лазінскага.



Менавіна ў гэтай вёсцы 5 чэрвеня 1870 года нарадзіўся будучы першы біскуп Пінскай дыяцэзіі. Хоць правёў ён тут толькі першыя дзесяць гадоў свайго жыцця, бо ў 1880 годзе сям'я Лазінскіх пераехала ў маёнтак Чэрнік каля Менска Мазавецкага (Польшча), Барацін назаўсёды застаўся ў яго сэрцы.

Па ініцыятыве карэліцкага пробашча айца Ежы Саковіча, паўліна, і пры падтрымцы і дапамозе мясцовай улады ў асобе старшыні Карэліцкага райвыканкама Генадзя Шатуева і намесніка старшыні Яўгена Чычкана вельмі хутка ўдалося добраўпарадкаваць тэрыторыю і паставіць крыж.

На ўрачыстасць сабраліся людзі з розных мясцовасцяў Карэліцкага раёна. Прыбылі прадстаўнікі ўлады на чале са старшынёМ райвыканкама, духавенства з суседніх парафій, айцы паўліны, сёстры назаратанкі з Наваградка.

У прамове да сабраных вернікаў айцец пробашч Юрый сказаў:

- Сёння мы вельмі ўдзячныя Слузе Божаму біскупу Зыгмунту Лазінскаму за словы, якія калісьці нам пакінуў:





"Пане, калі даеш мне выбар, выбіраю Твой крыж…". Мы будзем памятаць, што пасля дару жыцця няма іншага, апроч любові. Нікому нічога мы не павінны на гэтай зямлі, апрача любові. Гэтую любоў Хрыста біскуп Зыгмунт перадае кожнаму з нас, каб мы адзін аднаго любілі і Хрыста ў гэтым свеце абвяшчалі, аддаючы Яму пашану, - адзначыў святар.



У малітве ён даручыў Богу ўсіх тых, хто будзе маліцца перад усталяваным крыжам і прыбываць у Барацін у пілігрымках, каб ушанаваць Слугу Божага Зыгмунта Лазінскага і прасіць яго заступніцтва.



***Феліцыян Славінскі.***

*Фота: а. Ануфрый Альховік OSPPE / Catholic.by.*




# Старажытную сядзібу ў Мастоўскім раёне аднавіла мясцовая гаспадарка

Сядзіба знаходзіцца ў баку ад вёскі Вялікая Рагозніца. Цяпер у гэтым велічным будынку знаходзіцца кантора мясцовага сельгаспрадпрыемства, піша "Звязда".

Работы збольшага завершаны, але на чарзе гаспадарчая пабудова паблізу маёнтка і вялікая прысядзібная тэрыторыя, дзе калісь, відавочна, быў раскінуты парк. Яго таксама будуць аднаўляць.




Сядзіба знаходзіцца на землях КСУП "Імя Адама Міцкевіча". Намаганнямі старшыні Уладзіміра Пісарэвіча тут праведзены значныя работы. Дарэчы, сам дырэктар гаспадаркі таксама ведае пра былых уладальнікаў маёнтка.

- Старажытны будынак заклаў вядомы на той час дзяржаўны дзеяч Антоні Сухадольскі. Затым палац пераходзіў да розных уладальнікаў. Цяпер сядзіба належыць КСУП "Імя Адама Міцкевіча". Мы правялі даволі істотны рамонт. Аднавілі фасад і дах, падабралі адпаведную каларыстыку. Таксама адрамантавалі ўязныя калоны. Яшчэ трэба адмостку зрабіць і прывесці ў належны выгляд будынак ля сядзібы. У перспектыве ачысцім увесь участак, ёсць намер пасадзіць сад, пладовыя дрэвы. Дзякуючы рэнтабельнасці гаспадаркі, усе работы вядзём за ўласныя сродкі.

Сядзібу яшчэ напрыканцы XVIII стагоддзя заклаў уласнік гэтых мясцін, вядомы на той час дзяржаўны дзеяч Антоні Сухадольскі. Цікава, што ў соймах Рэчы Паспалітай ён выступаў за тое, каб у склад ваеннай камісіі ўваходзілі не толькі палякі, але і ўраджэнцы беларускіх земляў.

Наступным уладальнікам сямейнай сядзібы і Рагозніцы стаў сын Антонія Сухадольскага - Ян. Ён, як і бацька, служыў пры высокім двары, а ў 1794 годзе быў удзельнікам паўстання разам з Тадэвушам Касцюшкам. Двое другіх сыноў пайшлі па творчым шляху - адзін з іх стаў паэтам, другі - мастаком. Януарыя Сухадольскага нават лічаць першым беларускім мастаком-баталістам.

Сама сядзіба пабудавана ў стылі класіцызму, аднапавярховая і з порцікам на цэнтральным фасадзе. Ёсць нямала архітэктурных асаблівасцяў, напрыклад, верх порціка, ці, больш дакладна, франтон, упрыгожаны гірляндай і карнізам. Раней тут стаялі бронзавыя вазы, але іх, па даведках, знялі яшчэ падчас Першай сусветнай вайны. Кажуць, пераплавілі на зброю.

Пазней, дзесьці пры канцы XIX стагоддзя, быў прыбудаваны балкон з калонамі.

Памяшканні, бачна, былі даволі раскошнымі. Праўда, зараз ад былой велічы нічога не засталося, акрамя высокіх столяў і старажытных сцен.

А калісьці тут стаяў камін з белага мармуру з люстэркам, круглая печ з белай кафлі, сцены ўпрыгожвала багатая калекцыя жывапісу. На жаль, пра арыгінальныя інтэр'еры старажытнай сядзібы мала што вядома. Маёнтак часта мяняў уладальнікаў.

Але ёсць звесткі, што тут гасцяваў апошні кароль Рэчы Паспалітай Станіслаў Аўгуст Панятоўскі. У яго нават быў свой "каралеўскі" пакой - самае ганаровае месца ў маёнтку.

Рагозніца неўзабаве перайшла да сям'і Шабанскіх. Малады гаспадар браў удзел у паўстанні 1863 года і загінуў каля вёскі падчас бітвы з казакамі. Дарэчы, на месцы бітвы ўстаноўлены валун, які сведчыць аб гэтай гістарычнай падзеі. Не так даўно яго аднавілі.

Ну і апошнім уласнікам на пачатку XX стагоддзя стаў Оскар Мяштовіч, які валодаў Рагозніцай да 40-х гадоў. Адметна, што за гэты час ён паспеў пабудаваць даволі велічны касцёл у неараманскім стылі. Зараз гэта адна са славутасцяў гэтых мясцін, як і сядзіба і яе ўязная брама.




За савецкі перыяд тут шмат што перабудавана, але сам фасад і ўязная брама знаходзяцца ў адносна задавальнльным стане. Пасля маштабнага рамонту аблічча будынка змянілася, неўзабаве ў адпаведным стылі аформяць прысядзібны парк.

*"Звязда".*

# Выходзяць беларускія календары на 2024 год







Набліжаецца апошні месяц 2023 года, а за ім і сам Новы 2024 год. Па добрай беларускай традыцыі надышла пара выхаду з друку самых розных календароў.

Мы знайшлі інфармацыю пра чатырнаццаць выданняў, але, магчыма, не ўсе заўважылі. Вялізны выбар календароў на наступны год, да якога застаецца нейкі там месяц з хвосцікам. І календары працягваюць выходзіць.

Пра адрыўны каляндар “Родны край” мы ўжо пісалі. Пісалі пра каляндар “Знакамітыя людзі Шчучыншчыны”. Сёння паведамляем яшчэ пра два.

Краязнаўчым выдавецтва "Рыфтур" падрыхтаваны адразу два насценныя календары ў серыі "Планета Беларусь" - па гістарычных і прыродных мясцінах, як напісана на вокладках, для вашых падарожжаў.

На старонках першага календара прадстаўлены галоўныя архітэктурныя цікавосткі краіны - гарадзішчы, замкі, цэрквы і касцёлы, паказаныя з вышыні птушынага палёту. Другі каляндар паказвае найбольш дзікія куткі Беларусі, прыроду нацыянальных паркаў, заказнікаў і запаведнікаў з выявамі характэрных для гэтых тэрыторый птушак ці звяроў. Усе здымкі выкананы прафесійным фотамастаком Сяргеем Плыткевічам, які кіруе выдавецтвам.

Набыць календары за 22,41 руб. можна ў каталогу "Планета Беларусь".

Краязнаўцы Дзятлаўшчыны падрыхтавалі і выпусцілі прыгожы насценны каляндар на 2024 год "Знакамітыя людзі Дзятлаўшчыны" Сваімі землякамі дзятлаўчане могуць ганарыцца. Іх даволі шмат. На календары "Знакамітыя людзі Дзятлаўшчыны" адлюстраваны 22 знакамітыя асобы Дзятлаўшчыны XV-XXI стагоддзяў. Сярод якіх - Канстанцін Астрожскі, Казімір Леў Сапега, Альбрыхт Радзівіл, Ігнат Дамейка, Лукаш Дзекуць-Малей, Ігнат Дварчанін, Міхась Петрыкевіч і іншыя. Каляндар "Знакамітыя людзі Дзятлаўшчыны" адрасаваны перш за ўсё тым, хто цікавіцца гісторыяй сваёй маленькай радзімы, а таксама нашай агульнай гісторыяй і яе знакамітымі асобамі.

Добра было б, каб падобныя календары падрыхтавалі і выпусцілі краязнаўцы з іншых рэгіёнаў.

*Паводле СМІ.*




*Зміцер Захарэвіч*

# КРЫЖ ПРАВІНАЎ

### ДАДОМУ!

Яшчэ пакуль не завіднеў усход,
Ды сэрцы падказалі нам напрамак -
Арлы Пагоні пачалі палёт
Да места сінявокай Вострай Брамы.

Усцяж маўчаць на досвітку званы,
Туман ахутаў Вежу Гедыміна,
Што зноўку сніць, як ейныя сыны
Жывымі выйшлі з пекла Радзыміна[1].

Масква і Коўня, Лондан і Берлін
Падступна нас з табою разлучалі,
Святая Ганна, сёння ж як верлібр
Ламаным рытмам крокі загучалі.

Мы ўжо ідзем. Ці чуеш ты? Спачні,
Узняўшая ў літанні рукі ўгору.
Нібы крыж, цягнем зброю за плячмі,
Але суздром забыўшы пра пакору.

Няхай назаўтра будуць дакараць
І чын наш назаве Еўропа "збродняй",
Навокал фарбы восені гараць,
Кляны ператвараючы ў паходні,

Якія ў згодзе асвятляюць шлях
Зваротны пашарэлым у атаках -
Да продкавых магілаў на кладах,
Да знуджаных чаканнем доўгім матак.

Там нашыя сусвет, жыццё і плён -
Бронь божа, іх аддаць "братам прыблудным"[2],
Таму, за батальёнам батальён,
Спяшаемся, бы ўчуўшы голас трубны.

З агню і смерці, скрозь апошні бой
Напорна, не зважаючы на стому,
Не меч вам несучы, а супакой,
Нарэшце мы вяртаемся дадому[3].

---

[1] Падчас Варшаўскай бітвы 1920 г. у вырашальных баях пад Радзымінам галоўную ролю адыгралі 1-я Літоўска-Беларуская і 10-я рэзервовая дывізія (апошняй камандаваў наш ген. Жалігоўскі).

[2] Перад вераснёўскімі баямі з летувісамі ў 1920-м Пілсудскі заклікаў ставіцца да палонных не жорстка, а як да "прыблудных братоў".

[3] Ген. Жалігоўскі адказаў летувіскім парляменцёрам: "Мы ідзем не ваяваць з вамі, а толькі вяртаемся дадому".



### АПОШНЯЯ ЛІТАРА Ў АЛФАВІЦЕ

Я знікну ў немай глыбіні
Бяскрайняй вусцішнае ночы,
Давечны рыцар адзіноты
Не ўбачу раніцы агні.

Я буду верным да канца
Таму, што злучнасць статка страшыць,
Няхай пасля ён не заўважыць
Сыход чарговага наўца.

Я слова не пакіну след
У нетрах бездані бяззорнай,
Праз стогн сціханага акорда
Не змогшы даспяваць куплет.

Я сам з гармідару хацеў
Вярнуцца да першапачатку,
І прыйдзе час - растану згадкай
А цемра паглыне мой цень.

### БРАМА

Ад калыскі і ў сквар, і ў завею
Нясем сэрцы да яснага храма,
Што здалёк у блакіце бялее,
Але ў храм той замкнёная брама.

З кожным крокам да мэты сталеем,
Моўчкі тоячы думак сакрамант.
Ці на ютрань назаўтра паспеем?
Хаця храма замкнёная брама.




Хай на сіверы прышласць цмянее
На вачах - не мяняем напрамак,
Жывіць нас на адхланне надзея,
Толькі храма замкнёная брама.

Хто спыніць апантаных пасмее? -
Не звяртаем увагі на шрамы
І на прыпавесці фарысеяў,
Шкада, храма замкнёная брама.

Дабрылі, як народ Маісея,
Цераз церні, аднак паміж намі
Паняверка бунтоўная спее,
Бо чаму ў храм замкнёная брама?

**КРАТЫ (ПЕРАШКОДА)**

Як у нябёсы ні імкні
З лятункаў чарадой крылатай,
А зраніш грудзі да крыві
Аб прэнты ўчэпістыя кратаў.

Былі скаваныя яны
Няздарамі на здзек з натхнёных,
Каб засталіся назаўжды
Там, дзе нагляд і харч казённы.

На волі пломнем залатым
Гарыць світанак спакушальна,
Ды толькі вырачаны ты
Да змроку цвілай катавальні.

На прэнгу роспачнай тугі
Знясільвае стан безвыходны -
Ён здольны вобміг астудзіць
Адчаем прагненне свабоды.

Жалеззем спляжаны пейзаж -
Малы шматок зямнога цела,
Што перакрэслілі наўсцяж
Мерыдыяны й паралелі.

Але няўцешна не крычы,
Прымі насмешку долі годна:
Уцям - і краты, і крыжы
Адно жывым ёсць перашкодай.

**ДАРОГАЙ НА ДЗЯДЫ**

Зацішна. І паркаль нябёс
Прыбраны белай выцінанкай
Аблокаў на ўзбуялым ранку,
Які працяў Сусвет наскрозь.

Празрыстых успамінаў рось
Нясу ад дзедавага ганка
Да бацькі вечнага прыстанку,
Так сканчваецца маладосць.

Пільнуюць ківеры бяроз
Маўчанне ўчорашняй буслянкі
Пра тое, што нас безустанку
Вяртае да даўнейшых гнёзд.

**МІНУЧАСЦЬ**

Лісцё ўгары кастрычнік закружыў -
Дзён колішніх краса ляціць над светам,
І ўсё, чым кагадзе нядбала жыў,
З вачэй знікае пад бязжальным ветрам.
Без сэнсу на час зменлівы грашыць:
Было - мінула, не шкадуй аб гэтым,
Як змылыя расу ў лагах дажджы,
Як сонца, што спаліла сухмень лета.

* * *

І лягуць першыя сляды
Лісцём на люстраных кілімах,
Якія хмары наткалі
На той зямлі, што нас абдыме.

І сонца, кінуўшы пасад,
Ніжэй і бліжай да заходу
Кругамі робіць свой агляд
Палёў, пазбаўленых аздобы.

Над імі бляклай праміне.
А чэзлыя бадылін целы
Зацята хтось хвастаць пачне
Працяглым посвістам збалелым.

Грымоты ў шале навальніц
Нябёсы разаб'юць без жалю
І змыюць рэшткі цеплыні
Напорнасцю залеўных хваляў.

Пасля бязважкасць туманоў,
Паўстаўшы сонмам белых зданяў,
Маўкліва высляпіць акно,
Каб я не бачыў аджывання.




**ХАЛОДНЫ ДОЖДЖ…**

Халодны дождж працяў лязом
Дрымотнае паветра,
І шротам пырсканула золь
У шыбіны няветла.

Імгненна абязлюднеў двор
У немым абурэнні,
Як восеньскае хараство
Звялі на глум струмені.

Трымцела дробна на галлі
У сполаху лістота,
Бо адляцелых да зямлі
Братоў зглынала слота.

Не ўсім пакутваць у журбе -
Пад яблыняю-маткай
Рудзелі вабліва ў траве
Абмытыя ападкі.

Крый божа, люстарка разбіць,
Прыкмета - будзе кепска,
Але ўсцяж лужыны раслі -
Блішчастыя аскепкі.

У роўнядзь іх пасля дажджу
Ахутаны зацішшам,
Прыбраўшы парасон, гляджу -
Спрабую ўбачыць прышласць.

**МУЗЫКАНТКА**

Хтосьці ў парку лісце варушыць,
Што зямлю густа ўслала сабой,
Як жыццём сарваныя душы,
Тут абралыя вечны спакой.

І вярзецца - золкім сутоннем,
Дзе прыгаслі ліхтарняў агні,
Панна ў чорным з постаццю тонкай
Плачам скрыпкі смуткуе аб іх.

Стыне кроў праз голас засветны,
Зноў і зноў паўтараючы, што
Студзень люты, травень прыветны -
Гэта толькі мінучае тло.

Час згубіўся ў гамах няўлоўных
І прысадаў спакой пруцянеў,
Покуль з люстра бледнага поўні
Музыканткі твар слепа глядзеў.

А ў нястрымных нотных віхурах
Лісця нішчылася забыццё.
Танцавалі пальцы на струнах,
Узрушаючы ўсцяж груганнё.

З таго грання смык занядужыў,
І світанак праменне праліў
На расшкуматаныя душы,
Што спакою так і не знайшлі.

**ПРАВОДЗІНЫ**

Што пачуеш? Безгалась якая…
Спруцянела змізарнелае галлё,
Дзе на ўзлеску сонца адпускаю
Без гістэрыкі, спагады, слёз.

Адгасае бледнае ў празрыстасць,
Спаласканую сівой імжой ушчэнт,
Цераз гаю соннага абрысы
Лена цэдзячы ў быльнёг прамень.

Наўпатрап прастае долам цені,
Бы кратуе на зямлі спакой і сны,
І нябачных крылаў шамаценне
Не ўзрушае сталай цішыні.

На ўспамін адно паглыбіць зацін
Панарамай непапраўнай варажбы,
Бо нічога ўжо не перайначыць
Паўз абапал выцвілых сцяжын.

Затрымаецца на міг на ўзмежку,
Бескарыснага пазбавіцца цяжва -
У прадон азёраў кіне рэшту
(Медную драбніцаю)
Святла.

**ПАХМУРНЫ ЭЦЮД**

Вогкіх аблокаў радно
Засціла вышыню,
Сонца сышло за гумно -
Копціць азадак дню.

Золкі наўсцяж беспрасвет -
Хоць галавой аб рог!
Вецер і той пад павець,
Скінушы крылы, лёг.

Як спруцянеў далягляд,
Толькі ў глухім куце
Чорнымі пальцамі сад
Сну павуцінне рве.





Хопіць зацішша кладоў,
Бо лістапада стынь
Выправадзілі даўно
І спалілі масты!

Хай срэбрам зранку галлё
Вочы будзе пячы
І між берагамі лёд
Ад напругі трышчыць.

Каб звонкай шабляй мароз
Сцяў душы каламуць,
Саван калішніх нябёс
Яблыні ў садзе рвуць.

* * *

Са светам улагоджана, -
Здаецца, жыць і жыць,
Ды толькі з безвыходнасці
Штось у грудзях шчыміць.

Аб збаўным трызню выраі,
Хоць сэрца - на замок,
Там, над дзядоў магіламі,
Бязмежнасці парог.

Натхнёны ейнай праўдаю
Бяскрыласць перацьну -
Засуджаны, зняслаўлены
За небакрай памкну.

### КРЫЖ ПРАВІНАЎ

Пакуль брыдзеш вандроўцам па зямлі
Сярод людскіх падзякаў і праклёнаў,
На змуленых пад цяжарам рамёнах
Адно сваіх правінаў крыж нясі.

Час на дакоры іншым не марнуй -
Жыццё бязжальна адгасае прыскам;
Ідзі дарогай, выбранай калісьці,
Паспець той выбар спраўдзіць паспрабуй.

Дарма з сябе гаротніка ўдаваць,
Бо ўсе нарэшце сыдзем нетаропка
Туды, дзе не гурмой, а паасобку
За кожны крок прымусяць адказаць.

Без скаргаў на нягодаў збег свавольны
За ўласны чын будзь адпавесці здольны.

### ВЫЗВАЛЕННЕ

Хоць змаўчы, хоць закрычы -
Не здрыгануцца крумкачы,
Калі цень мой за плячмі
Следам больш не пабрыдзе
Між аблокаў на вадзе,
Стаўшы вольным кагадзе.

Не ўзрушае навіна,
Што жывільнага віна
Кубак выпіты да дна
І адкінуты ў рышток,
Незавершаны радок
Перацяў шнуры дарог.

Неба ў колеры сівым,
Нібы цешачыся тым
Згаслых свечак горкі дым
Шчэ плыве па-над зямлёй,
Развінуўся, як сувой,
Наўсцяж мёртвы супакой.

На загад цяжкой рукі
На палетках васількі
Паспляталіся ў вянкі,
Спруцянелы свет аглух,
Да грымотаў і вятруг
Адпускаю з цела дух.

### З НІЗКІ "РУБАІ"

*

У цішы голас прагучаў грымотны
Па-над натоўпам млявым і дрымотным.
Ці здолее ўзняць спячых адзінец -
Хто першым будзіць, той заўжды самотны.

*

Той без прычын пустэльнікам сумуе,
А гэны ў тлуме дзень пры дні балюе.
Хто мае рацыю? Адказ адзін -
Абодвух смерць урэшце рэшт зраўнуе.

*

Ноздры кпяць, і носіць вецер
Шматкі чарнавікоў, бы смецце,
Завершаны верш на дасвецці -
Увесь нажытак твой, паэце.




***Навіны Германіі***

# Хрысціянскія цэрквы губляюць значэнне ў Германіі

Прыхільнасць хрысціянскім цэрквам у Германіі працягвае змяншацца. Лік чальцоў хрысціянскіх цэркваў працягвае скарачацца, а рэлігійнасць падаць. Такія асноўныя вынікі "Шостага апытання сярод чальцоў цэркваў", які быў прадстаўлены на Сінодзе пратэстанцкай царквы ў Германіі. З агульнай колькасці насельніцтва толькі каля паловы верыць у Бога ці нейкую духоўную сілу. Сярод пратэстантаў гэта 52 прац., а сярод каталікаў дзве траціны. Як правіла, маладыя людзі меней рэлігійныя, чым пажылыя.



Паводле даследавання, у наш час хрысціянства вызнае нязначная большасць немцаў. Калі цяперашняя тэндэнцыя захаваецца, іх доля ў 2024 годзе ўпадзе ніжэй за 50 прац. З іншага боку, чакаецца, што да канца 2020-х гадоў доля нерэлігійных людзей перавысіць адзнаку ў 50 прац. і, такім чынам, таксама будзе складаць адносную большасць насельніцтва.

*Берлін (dpa/d.de).*

*Кёльнскі сабор© pictureAlliance/dpa.*

# У Германіі ўступае ў сілу новы закон пра энергаэфектыўнасць

Узнаўляльныя крыніцы энергіі і эканомія энергіі дапамагаюць змагацца са зменай клімату.

Новы закон пра падвышэнне энергаэфектыўнасці абавязвае органы ўлады, энергаёмістыя прадпрыемствы і цэнтры апрацоўкі дадзеных у Германіі эканоміць больш энергіі ў доўгатэрміновай перспектыве. Прыняўшы гэты закон, федэральны ўрад упершыню стварае міжсектаральный механізм энергазахавання. Закон вызначае мэты па падвышэнні энергаэфектыўнасці на 2030 год. Ставіцца мэта і на 2045 год. Гэта дазволіць дзяржаве, федэральным землям, муніцыпалітэтам і прадпрыемствам своечасова планаваць і фінансаваць мерапрыемствы, накіраваныя на зніжэнне спажывання энергіі.



Першая праверка таго, наколькі эфектыўна працуе гэты закон і як далёка прасунулася Германія ў дасягненні сваіх мэтаў, будзе праведзена ў 2027 годзе. У будучыні федэральны ўрад будзе рэгулярна - напачатку кожнага склікання - рабіць справаздачу перад Бундэстагам і затым прымаць рашэнне пра неабходнасць карэкціроўкі тых ці іншых нарматываў і мераў, прадугледжаных заканадаўствам.

*Берлін (d.de). © pictureAlliance/dpa.*



№ 48 (100) 29 ЛІСТАПАДА 2023 г.
наша СЛОВА.pdf

***Навіны Германіі***

# Саміт афрыканскіх дзяржаў у Берліне

***На мінулым тыдні Германія прымала многіх кіраўнікоў дзяржаў і ўрадаў у рамках "Дамовы з Афрыкай"***



Кіраўнікі дзяржаў і ўрадаў многіх афрыканскіх дзяржаў прыехалі ў панядзелак 20.11.2023 г. у Берлін, каб абмеркаваць больш цеснае эканамічнае супрацоўніцтва з Еўропай. Асноўнымі тэмамі канферэнцыі "Compact with Africa" (CwA) з'яўляюцца ўзмацненне прыватных інвестыцый на суседнім з Еўропай кантыненце і супрацоўніцтва ў вобласці ўстойлівых паставак энергіі. Канферэнцыя праводзілася па ініцыятыве Германіі, прапанаванай яшчэ ў 2017 годзе падчас старшынства краіны ў групе "Вялікай дваццаткі" (G20). Канферэнцыя накіравана на паляпшэнне эканамічных умоў у дзяржавах CwA, каб зрабіць іх больш прывабнымі для замежных прыватных інвестыцый.




У гэтую групу дзяржаў цяпер уваходзяць 13 краін афрыканскага кантынента: Егіпет, Эфіёпія, Бенін, Буркіна-Фасо, Кот-д'Івуар, Гана, Гвінея, Дэмакратычная Рэспубліка Конга, Марока, Руанда, Сенегал, Таго і Туніс. Шэраг іншых дзяржаў зацікаўлены ў далучэнні. Таму ў Берлін прыехалі таксама прадстаўнікі Анголы, Кеніі і Замбіі.

Германія прапануе сябе афрыканскім краінам у якасці доўгатэрміновага і надзейнага эканамічнага партнёра. Канцлер ФРГ Олаф Шольц і федэральны прэзідэнт Франк-Вальтар Штайнмайер выразна далі зразумець, што падобнае супрацоўніцтва, напрыклад, у сферы вытворчасці па-экалагічнаму чыстай энергіі, такі як зялёны вадарод, адпавядае інтарэсам абодвух бакоў.

- Афрыка - наш жаданы партнёр, калі гаворка ідзе пра актывізацыю эканамічных адносін і сумесны шлях да па-кліматычнаму нейтральнай будучыні, - заявіў Шольц на саміце "Дамова з Афрыкай" (англ. Compact with Africa). - Федэральны ўрад падтрымае ініцыятыву ЕС у вобласці развіцця зялёнай энергетыкі ў Афрыцы, выдзеліўшы чатыры мільярда еўра да 2030 года.

Старшыня Афрыканскага звязу Азалі Асумані і старшыня Камісіі Афрыканскага звязу Муса Факі Махамат запэўнілі, што, нягледзячы на ўжо наяўную моцную прысутнасць Кітая, Афрыка адкрыта і для іншых партнёрстваў. Абодва палітыкі падкрэслілі, што даўгі афрыканскіх краін і працэнтны цяжар па іх занадта высокія, што стрымлівае ўласныя інвестыцыі гэтых дзяржаў. Факі сказаў, што "пазыкавы цяжар - гэта ярмо", якое трэбала б паменшыць. Асумані заклікаў *"Германю як надзейнага партнёра"* падтрымаць свой кантынент *"у імя далейшага прагрэсу і росквіту Афрыкі і ўсяго свету"*.

Штайнмайер звярнуў увагу на тое, што сумесная прысутнасць краін Еўропы і Афрыкі павялічыць іх вагу ў свеце.

- Мы мацней, калі дзейнічаем разам, - заявіў ён на сустрэчы з кіраўнікамі дзяржаў і ўрадаў.

У саміце ў Берліне таксама прынялі ўдзел прэзідэнт Камісіі ЕС Урсула фон дэр Ляйен, прэзідэнт Рады ЕС Шарль Мішэль, прэзідэнт Францыі Эмануэль Макрон і прэм'ер-міністр Нідэрландаў Марк Рутте. Прадстаўнік гаспадароў саміту, федэральны канцлер Олаф Шольц, таксама выкарыстаў гэтую канферэнцыю для правядзення некалькіх двухбаковых абмеркаванняў з асобнымі кіраўнікамі дзяржаў і ўрадаў. Федэральны прэзідэнт Франк-Вальтар Штайнмайер запрасіў удзельнікаў на абед у палацы Бяльвю.

***Берлін (dpa/d.de), © pictureAlliance/dpa.***





# Ён верыў у сілы чалавека

***Да 120-годдзя беларускага пісьменніка Піліпа Пестрака (1903-1978)***

Часта прыгадваю гэтыя паэтычныя радкі, якія напісаў беларускі паэт Піліп Пестрак ажно ў 1949 годзе, а ўпершыню яны былі надрукаваныя ў часопісе "Полымя" ў 1955 годзе. Верш з гэтай апошняй страфой называецца "Мастак":

*Павер, мастак не можа не тварыць,*
*Не можа кат зрабіць яго калекай, --*
*Мне ёсць аб чым з табой пагаварыць,*
*Мой друг, я веру ў сілы чалавека!..*

Адзін з папулярных паэтаў і празаікаў былой Заходняй Беларусі Піліп Пестрак сёння ў Беларусі амаль забыты. А гэта быў таленавіты пісьменнік, мужны і вясёлы чалавек. Ён з'яўляўся заслужаным дзеячам культуры Беларусі, а ў 1964 годзе за раман "Серадзібор" атрымаў рэспубліканскую Дзяржаўную прэмію імя Якуба Коласа. А яшчэ Піліп Пестрак напісаў і выдаў шмат кніг паэзіі, прозы, раман "Сустрэнемся на барыкадах", паэму "Слова пра Мінск". Дарэчы, ці не адзіны гэта быў беларускі літаратар, які пры жыцці тады выдаў свой збор твораў у 4-х тамах.

Піліп Пестрак амаль 11 гадоў за сваю рэвалюцыйную дзейнасць адсядзеў у 1930-х гадах у польскіх турмах. А ў 1939 годзе, калі на заходнія землі Беларусі прыйшлі саветы, яго адразу абралі дэпутатам Народнага сходу Заходняй Беларусі ў Беластоку. На гэтым сходзе была вылучана паўнамоцная камісія на сесію Вярхоўнага Савета СССР у Маскву. У складзе гэтай камісіі быў і Піліп Пестрак: *"На Народным сходзе ў Беластоку была выбрана паўнамоцная Камісія ў складзе 60 чалавек, якая павезла дэкларацыю Сходу ў Маскву на Пятую нечарговую сесію Вярхоўнага Савета СССР. У складзе гэтай Камісіі быў і я." (Піліп Пестрак. Збор твораў у пяці тамах. Мн., 1986. Т. 5. С. 173).*

Нарадзіўся Піліп Пестрак у вёсцы Сакоўцы ў сённяшнім Івацэвіцкім раёне. Меў псеўданімы: П. Гайдук; Звястун; П. Звястун. Падчас Першай сусветнай вайны сям'я Піліпа Пестрака знаходзілася ў бежанстве ў Самарскай губерні, дзе будучы пісьменнік атрымаў сярэднюю адукацыю. А ў 1920 годзе ён паступіў на сацыяльна-гістарычны факультэт Самарскага ўніверсітэта. Але ў 1921 годзе разам з бацькамі вярнуўся ў сваю Заходнюю Беларусь.

У 1921-1924 гадах Піліп Пестрак працаваў леснікам Касаўскага лясніцтва. Потым служыў у Войску Польскім. У 1926 годзе ўступіў у БСРГ, з 1927 года - сакратар Касаўскага падпольнага райкама КПЗБ. Быў арыштаваны польскімі ўладамі ў 1929 годзе, зняволены ў Гарадзенскай турме да 1933 года. Пасля вызвалення з'яўляўся інструктарам ЦК КПЗБ па Пінскай акрузе, але ў 1934 годзе яго зноў арыштавалі. Сядзеў у турмах Пінска, Вільні, Гародні. Вызвалены савецкімі ўладамі пасля паходу Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь у верасні 1939 года.



***Піліп Пестрак у маладосці***

Дэбютаваў Піліп Пестрак у друку ў 1926 годзе ў часопісе "Родныя гоні". Падчас зняволення ў 1929-1939 гадах змяшчаў вершы ў нелегальным рукапісным часопісе "Краты", які выдаваўся палітвязнямі. У 1940 годзе з друку выйшаў яго першы зборнік вершаў "На варце". Тэме барацьбы ў Заходняй Беларусі прысвяціў раман "Сустрэнемся на барыкадах", а раман "Серадзібор" адлюстраваў жыццё беларускай вёскі.

У 1940 годзе Піліп Пестрак быў абраны дэпутатам па Гарадзенскай акрузе ў Вярхоўны Савет СССР. Ён прымаў удзел у пасяджэнні праўлення Саюза пісьменнікаў БССР, дзе яго прымаюць у Саюз пісьменнікаў. А праз некалькі дзён пісьменнік Піліп Пестрак прыязджае ў Беласток, дзе актыўна ўдзельнічае ў агульным сходзе пісьменнікаў Беластока, прысвечаным творчым вынікам першага года жыцця і працы на савецкай беларускай





зямлі. Ён выступае нават з дакладам на сходзе пад назвай "Аб маральным вобліку савецкага пісьменніка", які пасля публікуе беластоцкая абласная газета "Вольная праца". На сходзе Пестрака выбіраюць старшынём бюро беластоцкага аддзялення Саюза пісьменнікаў БССР. Тут, у Доме партасветы ў Беластоку, на вялікім літаратурным вечары ён выступае з чытаннем сваіх вершаў:

*Іду…*
*Па дарожках, па прасёлачках.*
*У даль прастору гавару:*
*"Прыхілі мяне, мая долечка,*
*Барацьбяная Беларусь!".*

У беластоцкай газеце "Вольная праца" Піліп Пестрак пачынае друкавацца часцей. У 1940 годзе ён публікуе верш "З тваім імем у сэрцы", у траўні - верш "Першы май", пасля - вершы "Над морам", "Сасна" і іншыя. Верш "Сасна" аўтар прысвяціў Янку Купалу.

У лютым 1941 года ў "Вольнай працы" быў надрукаваны верш Пестрака "Даклад". Пасля ў сакавіку - артыкул "Дзяржаўныя прэміі". А ўжо ў красавіку ў беластоцкім Доме Чырвонай Арміі адбываецца яго асабісты літаратурны вечар, які адкрыў і вёў Максім Танк. А праз месяц Піліп Пестрак арганізоўвае літаратурны вечар-сустрэчу Максіма Танка з беларускай моладдзю Беластока.

Планаў тады і задумак у Піліпа Пестрака ў Беластоку было шмат. Але збыцца ім перашкодзіла вайна. Тым




***Аўтограф П. Пестрака***



***Сяброўскі шарж. 1968 г. Міхаіл Лісоўскі. Класічны абед. Піліп Пестрак, Янка Брыль, Максім Лужанін, Кандрат Крапіва***







***Іван Ахрэмчык. Партрэт Піліпа Пестрака, 1968 г.***

не менш з Беласточчынай паэт сувязей не парываў. У "Белостокской правде" 29 лістапада 1943 года ён упершыню друкуе свой новы верш "Слухайце, пушчы, паляны…", хаця напісаны ён быў ажно ў Маскве. Верш, прысвечаны беларускім партызанам, якія ўзняліся на барацьбу з фашызмам:

*Слухайце, пушчы, паляны, -*
*Тупаты ног паплылі;*
*Гэта ідуць партызаны,*
*Сыны беларускай зямлі.*

Пасля вайны Піліп Пестрак на Беласточчыне гасцяваў радзей. Ён быў вельмі ўзрадаваны, калі ў 1956 годзе ў Беластоку пачаў выходзіць беларускі тыднёвік "Ніва". На яго старонках ужо ў кастрычніку друкуюцца вершы Піліпа Пестрака "Дзівасіл" і "Дарожка", прысвечаны памяці Якуба Коласа. Верш "Дзівасіл" паэт прысвяціў лекавай расліне дзівасіл, прэпараты з якога ўжываюць у медыцыне. Аўтар у вершы распавядае пра тое, як дзве бабкі гутараць паміж сабой. І адна з іх распавядае пра сына, якому паны моцна пабілі грудзі. І толькі дзякуючы дзівасілу, сын застаўся жыць. А ў канцы верша паэт сцвярджае:

*"Калі вам на сэрцы цяжка стане,*
*Адбярэ вам немач рэшту сіл,*
*Не сумуйце, дзеткі… - Бабка ўстала. -*
*Дам вам на дарогу дзівасіл".*

Верш "Дзівасіл" у 1973 годзе апублікаваў і "Беларускі каляндар", які да сённяшніх дзён выдаецца на Беласточчыне адзін раз у год. Праз чатыры гады "Ніва" друкуе два апавяданні Піліпа Пестрака "Прынцыпы" і "Путавод". А ў 1958 годзе на старонках беларускага тыднёвіка друкуецца ўрывак з рамана пісьменніка "Сустрэнемся на барыкадах". Літаратар пастаянна чытае "Ніву", "Беларускі каляндар", кнігі беларускіх пісьменнікаў з Польшчы. Ён перапісваецца з імі, сочыць за творчасцю Сакрата Яновіча, Алеся Барскага, Георгія Валкавыцкага, Віктара Шведа, Яна Чыквіна, Яшы Бурша, Дзмітрыя Шатыловіча.

У 1956 годзе разам з Янкам Брылём Піліп Пестрак наведвае Беласток, гасцюе ў "Ніве", дзе гутарыць з калектывам рэдакцыі і з кіраўніцтвам Беларускага грамадска-культурнага таварыства (БГКТ). Пасля розных літаратурных узаемасувязей на старонках беларускага менскага тыднёвіка "Літаратура і мастацтва" друкуе свой артыкул "Паэзія на старонках "Нівы" (25 снежня 1959 года)…




***Мемарыяльная шыльда ў Менску на праспекце Незалежнасці***

Піліп Пестрак выступаў і як літаратурны крытык, публіцыст, жыва адклікаўся на важнейшыя падзеі грамадскага і літаратурнага жыцця, ён заўсёды верыў у сілы чалавека.

Надзвычай уважліва ставіўся пісьменнік да маладых літаратараў, падтрымліваў іх творчыя пачынанні. Яго агляды паэзіі маладых, рэцэнзіі на першыя зборнікі вызначаюцца не толькі дакладнасцю ацэнак, але і добразычлівасцю, глыбокай заклапочанасцю лёсам роднай літаратуры:

*Нашу я маладосці спеў,*
*На сэрцы - зорныя сляды, --*
*П'ючы з жыцця любоў і гнеў,*
*Я буду вечна малады!*

***Сяргей ЧЫГРЫН.***



№ 48 (100) 29 ЛІСТАПАДА 2023 г.
наша СЛОВА.pdf

# Пра аўтара "контррэвалюцыйнай" граматыкі беларускай мовы

18 лістапада споўнілася 140 гадоў з дня нараджэння беларускага пісьменніка, публіцыста, мовазнаўца, педагога, нацыянальнага і палітычнага дзеяча, роднага дзядзькі Якуба Коласа Язэпа Лёсіка (1883-1940).

Язэп Лёсік нарадзіўся ў вёсцы Мікалаеўшчына Менскага павета. Яго бацькі Юрка і Хрысціна Лёсікі былі беззямельнымі сялянамі і арандавалі землі ў князёў Радзівілаў. Яны мелі сем сыноў і трох дачок. Язэп быў іх самым малодшым, таму ў першыя гады жыцця не быў моцна загружаны абавязкамі. Скончыў другі клас Мікалаеўскай народнай школы, пасля чаго два гады рыхтаваўся да экзаменаў у настаўніцкую семінарыю. Здаваў экзамены ў Настаўніцкую семінарыю ў Нясвіжы, але не паступіў. У 1898 годзе Язэп паступіў у Маладзечанскую семінарыю. Аднак на другі год быў выключаны з яе без права паступлення ў іншыя навучальныя ўстановы. Пераехаўшы ў Ноўгарад-Северскі (Чарнігаўская губерня), дзе працаваў ягоны брат, паступіў у гарадское вучылішча і скончыў яго ў 1902 годзе. У Ноўгарадзе-Северскім вытрымаў экзамен на годнасць настаўніка народнай школы…




*Язэп Лёсік*

Падчас знаходжання ў ссылцы, Язэп Лёсік займаўся самаадукацыяй. Здабываў сродкі на сваё існаванне фізічнай працай і толькі ў Бадайбо рабіў пісарам, а ў адной вёсцы арганізаваў пачатковую школу, але паліцыя хутка яе закрыла, бо ў ссылцы ў тыя часы забаранялася працаваць паводле сваёй спецыяльнасці. У Сібіры Язэп сустрэўся з паэтам Алесем Гаруном, з якім потым не разлучаўся. Супрацоўнічаў з газетай "Наша Ніва", падтрымліваў сувязь з пісьменнікамі і знаёмымі настаўнікамі ў Беларусі. Вярнуўся ў Беларусь пасля Лютаўскай рэвалюцыі ў сакавіку 1917 года. Спыніўся ў Менску, дзе ўключыўся ў дзейнасць беларускага нацыянальнага руху. З красавіка 1917 года ў Беларускай сацыялістычнай грамадзе, адзін з актыўных сяброў партыі. Кандыдат ад партыі ва Устаноўчы



ВОЛЬНАЯ БЕЛАРУСЬ

Цэна асобнага № 15 кап.

Умовы падпіскі на 1917 год.

Газэта палітычная, экономічная і літэратурная.

№ 1. (Нядзеля) Выходзіць двойчы на тыдзень. (28 мая). № 1.

„Вольная Беларусь"

*Газета, якую выдаваў Язэп Лёсік*

сход на Меншчыне. Як прадстаўнік БСГ увайшоў у склад створанага 7-9 красавіка 1917 года Беларускага нацыянальнага камітэта (БНК), рэдагаваў яго газету "Вольная Беларусь". Язэп Лёсік - адзін з ініцыятараў абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі 25 сакавіка 1918 года. У 1918 годзе, падчас функцыянавання структур БНР пад нямецкай акупацыяй, ён падтрымаў развіццё беларускай асветы. Разам з Язэпам Варонкам і Кастусём Езавітавым рэарганізаваў беларускае культурна-асветніцкае таварыства "Прасвета" ў культурна-асветніцкае таварыства "Бацькаўшчына". Уваходзіў у склад Рады БНР. У сярэдзіне красавіка 1918 года ён разглядаўся палітыкамі БНР, як адзін з кандыдатаў на пасаду кіраўніка ўрада - старшыні Народнага сакратарыяту.

На пасяджэнні 13 снежня 1919 года ў Менску адбыўся раскол Рады БНР праз пытанне стаўлення да польскіх акупацыйных уладаў. Група, што ініцыявала пераварот, стала называцца Народнай Радай БНР. 14




*Кнігі аўтарства Язэпа Лёсіка*



снежня была створана Найвышэйшая Рада БНР, якую ўзначаліў Язэп Лёсік, і якая пацвердзіла паўнамоцтвы прэм'ера Антона Луцкевіча. У канцы сакавіка 1920 года Язэп Лёсік удзельнічаў у перамовах паміж польскімі прадстаўнікамі цывільнага кіравання ўсходніх зямель і беларускім атачэннем. Лёсік прадстаўляў на перамовах пазіцыю Цэнтральнай беларускай рады Віленшчыны і Гарадзеншчыны, у адпаведнасці з якой беларускі бок звяртаўся да польскіх уладаў з просьбай абараніць усю Беларусь, прызнаць волю беларускага народа, прызнаць роўнасць беларускай мовы і спрыяць развіццю беларускай асветы. Пры гэтым беларускія палітыкі падкрэслілі, што чакаюць незалежнасці БНР, але бачаць яе будучыню ў звязе з Польшчай. Польскі бок не выканаў патрабаванняў.




*Часопіс “Беларускі сьвет”, прысвечаны Язэпу Лёсіку, 1983 г.*

Па заканчэнні польска-савецкай вайны Язэп Лёсік застаўся ў ССРБ, абвясціў аб "прызнанні прынцыпаў Савецкай улады" і адышоў ад палітычнай дзейнасці. Займаўся навуковай, культурна-асветнай, літаратурнай працай. З ліпеня 1921 года выкладаў у Беларускім дзяржаўным універсітэце, на беларукіх лектарскіх курсах, у Белпедтэхнікуме. У 1922 годзе, пасля выхаду ў свет кнігі "Практычная граматыка беларускае мовы", газета "Звязда" назвала падручнік "контррэвалюцыйным".



*Інстытут беларускай культуры. Сядзіць трэці злева Язэп Лёсік, 1922 г.*

У пачатку лістапада 1922 года Язэп Лёсік быў арыштаваны, але ў абарону яго выступіў тагачасны наркам асветы ССРБ Усевалад Ігнатоўскі. 11 лістапада 1922 года Ігнатоўскі накіраваў у Прэзідыум ЦК КП(б)Б зварот, у якім паказаў значэнне Язэпа Лёсіка для будаўніцтва нацыянальнай культуры і паставіў пытанне аб яго вызваленні. У снежні 1922 года Лёсік быў адпушчаны. 14 ліпеня 1930 года Язэп Лёсік быў арыштаваны па сфабрыкаванай справе "Саюза вызвалення Беларусі" на курорце ў Мацэсце (Сочынскі раён), дзе ён лячыўся ад ішыясу: 2 гады не мог хадзіць без кія. Закончыць курс лячэння яму не далі, з Каўказа арыштаваным прывезлі ў Менск і пасадзілі ў турму Дзяржаўнай палітычнай управы НКУС, так званую "амерыканку". Адначасова з ягоным арыштам у яго доме на Шпітальнай вуліцы праходзіў ператрус. Пачаўся ператрус а 10-й гадзіне вечара і працягваўся да 8-й гадзіны раніцы. 6 снежня 1930 года Савет народных камісараў БССР за подпісам Галадзеда і Калевіча на патрабаванне бюро Цэнтральнага камітэта Камуністычнай партыі (бальшавікоў) Беларусі пазбавіў яго звання акадэміка. Пастановай калегіі АДПУ БССР ад 10 красавіка 1931 года Язэп Лёсік быў сасланы на 5 гадоў у горад Камышын Саратаўскай вобласці. Жыў у горадзе Нікалаеўскі, дзе выкладаў у педтэхнікуме. У лістападзе 1934 года пастановай ВЦВК беларус атрымаў амністыю без дазволу на вяртанне ў Беларусь. У 1935 годзе ён пераехаў з сям'ёй на Браншчыну, выкладаў рускую мову ў Малавышкаўскай школе на ст. Злынка. Увосень 1937 года перасяліўся ў Актарск Саратаўскай вобласці, працаваў у педтэхнікуме. У чэрвені 1938 года арыштаваны па справе "Контррэвалюцыйнай арганізацыі палітссыльных у Саратаве". 31 сакавіка 1940 года асобай нарадай асуджаны на 5 гадоў ГУЛАГу за "антысавецкую агітацыю".




*Аляксандр Фінскі. Медаль*




*Мікалай Несцярэўскі. Партрэт Язэпа Лёсіка. Кераміка, 2005 г.*

Паводле афіцыйнай версіі, Язэп Лёсік памёр ад сухотаў у саратаўскай турме на наступны дзень. Паводле іншай версіі, ён быў застрэлены адразу па абвяшчэнні прысуду. У гэты час Лёсік быў зусім здаровы, і сям'я не думала, што той неўзабаве памрэ. Апошні раз яго сям'я мела кантакт з ім 16 ліпеня 1938 года, калі атрымала развітальную паштоўку. Месца пахавання невядомае. Язэп Лёсік быў пасмяротна двойчы рэабілітаваны: 8 кастрычніка 1958 года па другім прысудзе праз Акруговы суд Саратава і 10 чэрвеня 1988 года - Вярхоўным Судом Беларускай ССР па першым прысудзе. У 1990 годзе яму вярнулі званне акадэміка.

**_Паводле СМІ._**

*Макар Касцевіч (Краўцоў)*

# Б е л а р у с ы

*(Заканчэнне. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

**XII. Перыяд Сярэдняй Літвы**

У часы Сярэдняй Літвы пры Дэпартаменце асветы існаваў Беларускі аддзел, які ўзначальваў Б. Тарашкевіч (зараз - пасол у Сойм), у дапамогу ён меў рэферэнта Я. Станкевіча, гэты аддзел разам з настаўніцтвам на працягу 2,5 месяцаў (ад паловы лістапада 1920 г. да лютага 1921 г.) на тэрыторыі Сярэдняй Літвы адчыніў 186 беларускіх пачатковых школ. Больш за тое, узімку таго ж года ў Барунах была арганізавана Беларуская настаўніцкая семінарыя. Яе дырэктарам стаў Рак-Міхайлоўскі (зараз - пасол у Сойм).

Як мы ўжо казалі, у часы першай нямецкай акупацыі 1915-17 гг. на Віленшчыне і Гарадзеншчыне было створана больш за 150 беларускіх пачатковых школ і 2 настаўніцкія семінарыі ў Вільні і Свіслачы (семінарыя ў Свіслачы, перастала працаваць пасля адыходу немцаў). У 1918-20 гг. (разам з Сярэдняй Літвой) было створана больш за 200 пачатковых школ і згаданая ўжо семінарыя ў Барунах. Такім чынам можна казаць пра існаванне ў розныя часы 350 беларускіх школ. Аднак варта адзначыць, што адначасова такой колькасці школ ніколі не існавала.

Сярэдняя адукацыя была і з'яўляецца сёння прыватнай справай, якая паказала сваю значную устойлівасць. З 1917 г. бесперапынна ствараліся беларускія гімназіі. Так у 1917 г. - гімназія ў Будславе і Слуцку, у 1919 г. - у Вільні і Менску.

У 1922 г. у межах Польшчы існавалі ўжо 5 беларускіх гімназій, а менавіта ў Вільні, Радашковічах, Гарадку (Вілейскага павета) - выключна беларускія, у Наваградку і Нясвіжы змешаныя беларуска-расійскія. Што да лёсаў вышэйзгаданых гімназій, дык Менская і Слуцкая засталіся па-за абшарам Польшчы, а гімназія ў Будславе была зачынена ў 1919 г. Акрамя таго, беларускія гімназіі некаторы час існавалі ў Гародні і Пінску. У 1923 г. зачынены беларускія гімназіі ў Нясвіжы і Гарадку.

Але з надыходам 1924/25 вучэбнага года, беларусы кампенсавалі страты праз адкрыццё новых гімназій у Клецку і Глыбокім. На дадзены момант дзейнічаюць 4 беларускія гімназіі (адна з іх у Наваградку - змешаная, 4 малодшых класа беларускія, вышэйшыя - расійскія).

Варта адзначыць, што ў 1920-21 гг. мела месца спроба стварэння беларускай кафедры ў Віленскім універсітэце. Але кафедру заняў праф. Масоніўс, які выкладаў па-польску.

Вяртаючыся да падзей таго часу, трэба згадаць выбары ў Віленскі сойм у канцы 1921 г., а менавіта беларускую згодніцкую групу Алексюка, якая адмыслова, да выбараў выдавала беларускія газеты, але ў выніку атрымала на выбарах поўнае фіяска.

На пачатку 1921 г. беларускі аддзел пры Дэпартаменце асветы быў зрэдукаваны да 1 рэферэнта, якім стаў Тарашкевіч, а 1 студзеня 1922 г. была скасавана і гэтая пасада рэферэнта.

**Выбары 1922 г. ў Сойм**

Галоўнай падзеяй беларускага жыцця ў 1922 г. і прынцыповым момантам усяго адраджэнцкага руху з'яўляецца выхад беларусаў на шлях парламентарызму, дзякуючы абранню сваіх прадстаўнікоў у Сойм і Сенат падчас выбараў 5 і 12 лістапада. Насуперак чаканню, беларусам удалося прасунуць ажно 14 сваіх кандыдатаў (11 паслоў і 3 сенатары). На жаль, склад паслоў і сенатараў, у значнай ступені, не можна лічыць добрым. Што тычыцца сенатараў, дык А. Назароўскі і У. Багдановіч да апошняга часу лічыліся "рускімі людзьмі" і, напэўна, не адносілі сябе да беларускай мінуўшчыны і культуры. Што да беларускіх паслоў, дык іх можна падзяліць на некалькі катэгорый. Да найбольш выбітных адносяцца Бр. Тарашкевіч, Ад. Станкевіч і Сым. Рак-Міхайлоўскі, далей ідуць Аўсянік, Кахановіч, Баранаў (ці Баран) і Ярэміч, усе яны даўнія беларускія дзеячы. Але як тут аказаліся сп. кшалту Мётлы і Якавюка, якія, можа, толькі крыху дакрануліся да беларускай справы і да апошняга часу былі вядомы як "рускія людзі" без усяго беларускага. Пра сп. Рагулю і двух неабраных кандыдатаў Каліноўскага і Сабалеўскага, наогул ніхто нічога не ведае (у любым выпадку, на выбарах асоб у кандыдаты не бракавала).

Сп. Сабалеўскі (меркаваны 12-ты беларускі пасол) не прайшоў пры канчатковым размеркаванні мандатаў, а Каліноўскі не зацверджаны Праверачнай камісіяй Сойма з-за адсутнасці грамадзянства і быў заменены сп. Валошыным. Абранне сп. Рагулі старшынём Беларускага соймавага клуба, замест Тарашкевіча, які дагэтуль займаў гэтую пасаду, можна патлумачыць толькі неабходнасцю падкрэсліць узмацненне беларускай апазіцыі да ўрада, для гэтага і мог спатрэбіцца русафіл і радыкал сп. Рагуля. Па-праўдзе і сп. Тарашкевіч не з'яўляецца кансерватарам, аднак ён выхаваны на польскай культуры і лічыцца паланафілам, і таму, у выніку, стаў не адпавядаць гэтай пасадзе. Гэтак яго хацелі "пакараць" за ўдзел у Польска-беларускім таварыстве ў Вільні, адным з ініцыятараў якога Тарашкевіч з'яўляўся. Таварыства павінна было служыць мэтам ўзаемнага збліжэння і супрацоўніцтва польскіх і беларускіх згуртаванняў у галіне навукі,





культуры, гісторыі, літаратуры і мастацтва і г. д., аднак распалася летам 1924 г. яшчэ да ўстаноўчага сходу.

Некалькі беларускіх паслоў праз пэўны час апынуліся па-за Соймам: Баранаў у вязніцы, Якавюк збег у Летуву (з-за беластоцкага судовага працэсу). Іх мандаты покуль не запоўнены з-за працяглай спрэчкі з беларускімі яўрэямі наконт пераемнікаў. Усе згаданыя паслы і беларускія сенатары, выйшлі са спісу № 16 (Блок меншасцяў). Большасць з іх прадстаўляюць радыкальныя палітычныя накірункі. А беларусы-згоднікі ("Зелёнадубцы-балахоўцы", "Алексюкоўцы", "беларускія беспартыйныя актывісты") зноў атрымалі паразу на выбарах.

З беларускага культурнага жыцця ў гэтым годзе, варта згадаць беларускую прэсу. Што праўда, у Вільні выходзілі толькі дзве газеты (не лічачы выбарных эфемерыд) і тыя не сістэматычна і з перарывамі, але беларуская моладзь выдае (на жаль, яшчэ не працяглы час) ажно 4 выданні. Студэнты-беларусы Універсітэта Стэфана Баторыя (Віленскага - *Л. Л.*) рэдагуюць штомесячнік "Наш Шлях", школьная моладзь старэйшых класаў беларускіх гімназій - штомесячнік "Маладое жыццё", дзеці малодшых гімназічных класаў і беларускага прытулку, на шапірографе друкуюць сваё выданне "Усход" і "Зорка".

**XIV. Апошнія гады (1922-24)**

Найбольш вядомай падзеяй у беларускім жыцці ў 1923 г. з'яўляецца беластоцкі працэс, ці "справа 45" беларусаў, абвінавачаных у арганізацыі беларускага паўстання на Гарадзеншчыне. Спачатку, па гэтай справе былі арыштаваны каля 200 чалавек, але большасць з іх праз некаторы час адпусцілі. Галоўнымі абвінавачанымі былі беларуская настаўніца Вера Маслоўская і два беларускія паслы ў Сойм: Баран і Якавюк. Астатнія (42 асобы) - гэта сяляне і жменька беларускай інтэлігенцыі.

Згодна з прысудам Якавюк быў апраўданы, а Баран і Маслоўская атрымалі па 6 гадоў вязніцы. Працэс адбываўся вясной 1923 г.

З праяў беларускага культурнага жыцця апошніх гадоў варта зноў згадаць беларускую прэсу. З 1923 г. у Вільні пастаянна выходзяць два беларускія перыядычныя выданні - лацінкай і кірыліцай. "Крыніца" выдаецца лацінкай і на сённяшні дзень з'яўляецца самай старой беларускай газетай, бо выдаецца ўжо 8 гадоў (з 1917 г. у Пецярбургу і з 1918 г. у Менску, потым і па сённяшні дзень - у Вільні).

Гэты беларускі народны штотыднёвік прайшоў цікавую эвалюцыю ад каталіцкага народнага выдання да радыкальнай сялянскай газеты з антыдзяржаўным напрамкам. Некаторы час газету рэдагаваў кс. А. Станкевіч, зараз яе рэдагуе студэнт універсітэта Б. Туронак.

У 1922 г. заснавана выданне "Наша Будучыня", якое друкуецца кірыліцай. З моманту заснавання, з-за бальшавіцкай арыентацыі газета неаднаразова канфіскавалася і зачынялася, аднак заўсёды адраджалася пад новай назвай. У сваёй апошняй рэінкарнацыі мае назву "Сялянская праўда". Была зачынена ў палове снежня 1924 г., і яе чарговы рэдактар А. Войцік арыштаваны. Аднак, без сумнення, газета хутка выйдзе пад новай назвай. Гэтае выданне ў першую чаргу разлічана на народ і мае класавы характар, але з прычыны немагчымасці выдання адмысловай газеты для інтэлігенцыі "Сялянская праўда" рэдагуецца як газета для інтэлігенцыі. Уласна, народнай у гэтым выданні, па сутнасці, з'яўляецца толькі рубрыка карэспандэнцый з вёскі. Газета выходзіць тры разы на тыдзень і трэба прызнаць, што паводле свайго зместу і па якасці рэдагавання, яна нічым не саступае аналагічным польскім выданням.

У 1924 г. значна актывізуецца беларускі выдавецкі рух, аб чым перш за ўсё сведчыць той факт, што ў першай палове 1924 г. было выдадзена больш кніг, чым за ўвесь 1923 г.

У канцы 1924 г. ажыла і беларуская журналістыка. Студэнты-беларусы, пасля перарыву, выкліканага матэрыяльнымі цяжкасцямі ў акадэмічны 1923-24 гг., аднавілі выданне свайго штомесячнага часопіса "Студэнцкая думка", які друкуецца на кірыліцы. Рэдактар А. Зянюк. №1 гэтага старанна зробленага часопіса, які выйшаў нядаўна, мае цікавы і разнастайны змест. Перад святам Божага нараджэння, таксама мелася выйсці бадай што першае беларускае гумарыстычнае выданне "Авадзень".

Апошняй падзеяй беларускага жыцця ў Польшчы, ёсць новая спроба польска-беларускага ўрэгулявання, зробленая старшынём "Беларускага грамадзянскага сабрання" С. Валейшам. Гэтак зараз называецца "Беларускі клуб" у Вільні, закладзены яшчэ перад вайной. Летам 1924 г. ён аддзяляецца ад "Беларускага нацыянальнага камітэта" ў Вільні, які арыентуецца на Савецкую Беларусь (на жаль такая арыентацыя дамінуе з часоў Рыжскай дамовы і яшчэ больш узмацнілася пасля пашырэння межаў Савецкай Беларусі) і пачынае тры разы на тыдзень выдаваць газету "Грамадскі Голас" з памяркоўнай пазіцыяй і арыентацыяй на Польшчу, газету падпісвае Я. Салавей.

Увосень таго ж года ў Вільні была скліканая нібыта беларуская канферэнцыя, якая выбрала новае беларускае прадстаўніцтва, так званую "Беларускую часовую раду" на чале з сп.сп. Паўлюкевічам, Більдзюкевічам і іншымі, Рада гэта месціцца ў адным з віленскіх гатэляў. Уся гэта акцыя, якую з польскага пункту гледжання трэба было б толькі ўхваліць, магла б даць для нас нейкі карысны плён, але перашкодай гэтаму сталася ненайлепшая асабістая рэпутацыя дзеячаў гэтага кола.

Што тычыцца газеты, якую яны выдаюць, дык газета выглядае бляклай і бясколернай, яна да нудоты корміць сваіх чытачоў перакладамі з польскай прэсы, што не дзіўна, калі ўлічваць, што сапраўдны рэдактар "Грамадскага голасу" М. Касцевіч (аўтар артыкула крытыкуе





# Падзеі вайны 1812 года рэканструявалі ў Барысаве

25 лістапада ў Барысаве, на батарэях, якія захаваліся з напалеонаўскіх часоў, правялі рэканструкцыю аднаго з этапаў баёў пры Бярэзіне, якія адбыліся 211 год таму.

Баі на Бярэзіне напрыканцы лістапада 1812 года сталі вельмі трагічным этапам рускай кампаніі Напалеона. Пры пераправе і навядзенні мастоў, а таксама ў баях 26-29 лістапада Вялікая армія страціла па розных крыніцах ад 20 да 40 тысяч чалавек. Таму нездарма ў французскай мове захаваўся выраз C'est la Berezina, які абазначае велізарныя праблемы, кашмар.

Французскія часткі занялі Барысаў і пачалі будаваць пераправы цераз халодную ўжо раку. Авангард рускай арміі ўжо наблізіўся да Барысава, і 21 лістапада 1812 года на ўмацаваннях - батарэях, частка якіх захавалася дагэтуль, - адбылася бітва. У выніку рускія часткі захапілі ўмацаванні, выцесніўшы суперніка з горада. Менавіта гэты эпізод у памятным месцы і прадэманстравалі рэканструктары.







На фестываль прыехалі клубы рэканструкцыі з Беларусі і Расіі, якія прадстаўлялі і рускую, і французскую арміі. Раз-пораз гучалі, нават палохаючы некаторых гледачоў, гарматы. Пяхотныя шыхты стралялі і бясстрашна сыходзіліся ў штыкавых атаках пад гукі барабанаў.




Нават мёрзлі і паміралі збоку вельмі натуральна, але насамрэч, канешне, рэканструкцыя тым і адрозніваецца ад сапраўдных ваенных падзей, што тут усе паміж сабою сябруюць, і ніхто ў выніку баталіі не пацярпеў!




***Ганна РОВІНА, “Звязда”.***
***Фота аўтара.***

*Рэдактар Станіслаў Вацлававіч Суднік*

*Адрас рэдакцыі:*
231282, г. Ліда, вул. Лётная, 7а.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231282, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* sudnik@list.ru, sejlawiczy@gmail.com

Газета падпісана да друку 27.11.2023 г.

Фармат А-4.
Аб’ём 3,5 друкаванага аркуша.

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі. Рэдакцыя рукапісы не вяртае.***

**Газета размяшчаецца на сайтах: http://nslowa.by/; http://pawet.net/; http://belkiosk.by/**
*Дазваляецца самастойная раздрукоўка на паперу.*